*Паважаныя чытачы! Гісторыя — гэта мы, дакладней тыя з нас, якія па волі лёсу і свайго жадання аказваюцца на вастрыні падзей. Гэтыя людзі жывуць ці жылі сярод нас. Сёння мы адкрываем новую рубрыку «Славутыя землякі», у якой і будзем расказваць пра іх.*



*НА ЗДЫМКУ: І. І. Васілевіч.*

СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# Генерал Іван Васілевіч

Пра чалавека, якога не ведаеш і не сустракаўся з ім, пісаць даволі складана. Бо зразумець той час, тыя абставіны, а галоўнае людзей, якія тады працавалі, марылі і кахалі, не вельмі проста. Да таго ж у кожнага свой характар, свае адметныя звычкі, сваё ўласнае жыццё, свая, не разгаданая нікім да канца душа. Што ж тычыцца Івана Васілевіча, то па расказах ягонага пляменніка Рыгора Васілевіча (а яму распавядала маці) ён вырас у вялікай сям'і (12 душ) і таму змалку спазнаў усе цяжкасці сялянскага жыцця. Не сакрэт, у мнагадзетнай сям'і і дзеці растуць на дзіва дружныя, спагадлівыя, чужому гору ніколі не радуюцца, а заўсёды прыходзяць іншым на дапамогу.

У сям'і Васілевічаў самым адметным быў Ваня. Не па гадах кемлівы і разважлівы, ён прыцягваў да сябе не толькі аднагодкаў, але і старэйшых хлапчукоў. Гэта стала яшчэ больш прыкметна, калі займаўся спярша ў чатырохкласным вучылішчы, а потым у лясной школе.

Трэба сказаць, што бацька прыкмеціў цягу сына да вучобы і стараўся, каб Ваня атрымаў адукацыю, бо самому нагул не пашчасціла вучыцца.

Закончыўшы вучылішча і школу, Іван падумваў пра далейшую вучобу. Бацька не пярэчыў. А настаўнікі парэкамендавалі Васілевічу пайсці вучыцца ў Слонімскую гімназію. Так Іван стаў гімназістам. Займаўся добра. Потым пачаў цікавіцца палітычнай літаратурай. Пра гэта даведаліся настаўнікі, і Васілевіч аказаўся за парогам гімназіі. Дома нікому не сказаў, па якой прычыне кінуў вучобу. Але ж мара вучыцца ў іншай навучальнай установе не пакідала яго.

Хутка на шляху Івана Васілевіча стала вайна — першая імперыялістычная. У 1915 годзе яго мабілізуюць у армію. Служыў радавым салдатам. Заўважылі кемлівасць маладога байца і накіравалі на вучобу ў Чугуеўскае ваеннае вучылішча. Пасля заканчэння яго да ліпеня 1917 года служыў унтэр-афіцэрам, а затым у чыне прапаршчыка на заходнім фронце камандаваў ротай. У маі таго ж года ўступіў у партыю бальшавікоў.

За ўдзел у паўстанні (ліпень 1917 года) у Петраградзе Васілевіча арыштавалі і кінулі ў турму. Часовы ўрад Керанскага жорстка расправіўся з іншадумцамі. З турмы выйшаў пасля кастрычніцкага перавароту. Партыя бальшавікоў накіравала Івана Васілевіча ў Тульскую губерню для арганізацыі Чырвонай гвардыі. Там жа ўдзельнічаў у падаўленні эсэраўскага паўстання.

Грамадзянская вайна стала суровым выпрабаваннем для маладога камандзіра. З 1918 па 1921 год Васілевіч удзельнічаў у баях супраць Петлюры і гайдамакаў, белапалякаў і фарміраванняў Булак-Булаховіча. Быў паранены ў правую нагу на рацэ Вілія ў 1919 годзе, кантужаны ў баі пад Барысавым у 1920 годзе.

Дарэчы, пасля ранення пад Вільна ў 1919 годзе Іван Васілевіч трапіў у палон, з якога потым уцёк і зноў апынуўся ў баявым страі.

Баявую ўзнагароду ордэн Чырвонага Сцяга Іван Іванавіч атрымаў за ўмелае кіраўніцтва боем супраць белапалякаў ля мястэчка Зэльва ў 1920 годзе.

Служба ў арміі – гэта пастаянная і напружаная работа і вучоба. Васілевіч закончыў Вышэйшыя акадэмічныя курсы і Асобыя курсы пры Усходнім факультэце ваеннай акадэміі.

Працаваў і за мяжой (Кітай) каля двух гадоў на пасадзе саветніка дывізіі і корпуса.

Ваенны лёс кідаў Івана Іванавіча Васілевіча на розныя адказныя ўчасткі. Ён камандаваў ротай, быў камісарам батальёна, памкамдыва па палітчастцы, начальнікам палітаддзела дывізіі, ваенным камісарам дывізіі, камандзірам і ваенным камісарам палка, начальнікам і ваенным камісарам Закаўказскай пяхотнай школы, начальнікам і ваенным камісарам Аб'яднанай школы Беларусі (цяпер Мінскае сувораўскае вучылішча)...

У 1936 годзе І. І. Васілевіч камандаваў 26-м стралковым корпусам у Прымор'і. У тым жа годзе яму прысвоілі званне камдыва.

На якой бы пасадзе ні працаваў Іван Іванавіч Васілевіч, ён заўсёды вылучаўся сваёй сумленнасцю і працавітасцю, глыбокімі ведамі.

Перада мной копіі архіўных выпісак з асабовай справы Васілевіча, якія зараз захоўваюцца ў музеі Падстарынскай СШ. Ёсць такія ж дакументы і ў пляменніка Рыгора Сцяпанавіча Васілевіча. І ва ўсіх іх адзначаецца, што Васілевіч «работнік сур'ёзны, удумлівы»; «валодае развітым, гібкім розумам»; «выдатна падрыхтаваны і развіты ў ваенных адносінах»; «з поспехам можа сумяшчаць абавязкі камандзіра і партыйнага кіраўніка» і г. д.

Усе атэстацыі (а гэта ў першую чаргу чысткі, што праводзіліся ў тыя гады) пацвердзілі адно: Васілевіч быў і застаўся сапраўдным патрыётам сваёй Радзімы, высокаадукаваным і аўтарытэтным военачальнікам, верным воінскай прысязе.

Лёс звёў генерала Васілевіча з маршалам Блюхерам, якога ён лічыў чалавекам і военачальнікам з вялікай літары. Блюхер быў аб'яўлены ворагам народа і расстраляны.

Такі ж лёс напаткаў і Васілевіча. Чытаем у архіўнай даведцы: «У загадзе НКА СССР № 00139 ад 7 чэрвеня 1937 года сказана, што камандзір 26-га стралковага корпуса камдыў Васілевіч Іван Іванавіч звольнены зусім са службы ў РКАА, арт. 44, пункт «в».

Быў знішчаны не толькі адзін Васілевіч, але і яго сям'я: жонка Любоў Пятроўна, сын Анатоль і дачка. Дарэчы, сын Анатоль, як і бацька, стаў ваенным. У той жудасны год ён ужо быў у чыне капітана.

Падвергліся рэпрэсіям і сваякі «ворага народа» Івана Васілевіча. Іх вывезлі з Падстарыні ў Архангельскую вобласць. Нацярпеліся яны, пабачылі шмат гора.

Той жудасны час, калі абарвалася жыццё мільёнаў лепшых людзей краіны, у тым ліку і генерала Васілевіча (усе яны пасмяротна рэабілітаваны), зараз успамінаюць не часта. Я не думаю, што памяць народа пра тое страшнае злачынства знікае. Не магу паверыць у гэта. Праўда пра чалавечыя пакуты, хаця і горкая і вельмі балючая, але павінна жыць заўсёды. Пакуль жывыя нашчадкі закатаваных і расстраляных сталінскім рэжымам.

*С. КАЖАДУБ.*

ПРОШУ СЛОВА

# Умей прощать...

Давайте посмотрим вокруг себя. Сколько мы видим добра, ласки, любви и сколько гнева, раздражения, зла? Если мысленно бросить все это на весы, добро на одну чашу, а зло на другую, что перевесит? Как вы думаете? Днями в сберкассе встретил одну знакомую женщину, она была в плохом настроении. Я понимал, что зло уже положило её на лопатки, она уже не устояла в борьбе с ним. На мой вопрос – что случилось? — она сказала, что люди вокруг какие-то злые, нет мира...

К сожалению, не умеем мы бороться со злом, и в этом наша беда. Если вы на грубость отвечаете грубостью, то вы уподобляетесь грубияну, с которым говорите. Как вы хотите, чтобы поступали с вами, так и вы поступайте...

Каждый человек имеет в себе удивительный инструмент, с помощью которого он может отличить зло от добра. Нам нравится и нам хорошо, если нас любят, заботятся, нежно и ласково с нами говорят, проявляют знаки внимания. Но что-то не всегда есть мир в семье, на работе, не всегда есть радость в сердце. Задаю себе вопрос: можно ли управлять внутренним климатом, как сделать его благоприятным?

Человек, который недавно покончил жизнь самоубийством в нашем городе, не только не имел мира в сердце. Зло, раздражение, безысходность взяли верх над разумом и человек ушел в вечность. Если бы чаще смотрел в небо, на окружающую природу, он многое мог бы постичь в смысле своего бытия на этой маленькой планете Земля.

Как жить правильно и с радостью, и возможно ли это? Да! Есть удивительная сила – жизнь, есть человек, и есть законы, которые сегодня ученые открывают. Но эти законы, мироздание и я кем-то созданы. Сегодня трудно найти человека, который не слышал слова Бог. По-разному люди относятся к нему, но он сказал: «Я есть истина, путь и жизнь».

Я хочу понять истину и хочу жить в радости, хочу понимать, что со мной происходит, хочу научиться побеждать зло. Я уже прожил 40 лет, когда впервые прочитал книгу Библия.И я понял: с моим опытом жизни и двумя высшими образованиями я еще ничего не знаю о себе, не знаю самого главного – как жить с радостью.

Жизнь материальна, полна забот. Сегодня нужно думать, где взять копейку, чтобы одеть и прокормить семью в 6 человек. Человек отдает свое здоровье, время, силы и трудится в поте лица, но достатка и радости нет. Почему? Почему один сверх меры бережлив, но у него уходит все то, что он имеет, а другой рассыпает блага щедро, и ему еще прибавляется? Почему один человек любит жизнь, а другой добровольно с нею расстается? Почему так происходит, что это за закон? Это закон зла, закон сатаны и мир стонет под его игом.

Давайте откроем книгу времен и народов – Библию и в ней прочитаем: «Побеждай Зло Добром» (рим 12:12). Но как практически в жизни это сделать? Работает ли закон, который мы с вами пытаемся понять? Если человек не может бросить курить, пить, блудить, сквернословить, то он раб сатаны. Но где взять силу победить это зло? Кто ее дает? Где? И вообще, возможно ли, если тебя бьют по одной щеке, подставить другую? Тебя ругают, смеются над тобой, а ты благословляешь этих людей, молишься за них. По-человечески это трудно: на зло ответить добром, но человек, имеющий в себе дух Божий, имеет силу это сделать. В 1-м послании Иоанна (3 гл. 8—11 ст.) мы читаем, что «Каждый верующий в Него, каждый приходящий к Нему, вступает в победную жизнь над злом, получает новое сердце, не терпящее зла ни в себе самом, ни в окружающем нам мире».

Побеждай зло добром – вот лекарство, закон, данные нам Богом в борьбе со злом. Приведу пример из личной жизни. Моему старшему сыну 15 лет, и недавно его с другом избил мальчик, живущий в соседнем доме. Родители друга моего сына неверующие, и поступили по-человечески. Мальчика освидетельствовали на побои, и на стол участкового милиционера легла бумага-заявление. Я человек верующий. Выбрал вечерний час и зашел в семью мальчика, который через кулаки высказал свое несогласие с другой точкой зрения. Прихожу и говорю: мир вашему дому. Я уже помолился за них и простил, а когда мы сели за стол для беседы, я убедил их, что пришел не со злом, не сводить счеты. Более двух часов мы говорили о роли родителей в семье, их примере, ответственности и делах. Когда я уходил, у нас на сердце были мир и радость. Надеюсь, что и их сын понял, что только от недостатка интеллекта и добра начинают говорить кулаки. Сатана где-то через телевизор, где-то через родителей говорит сердцу этого юноши: сила – это власть. За себя нужно стоять, не давай себя в обиду, не прощай ее и т. д. Но человек, знающий как действует Закон Божий, скажет: «Отойди от меня, сатана».

Человек никогда не победит зло, если в его сердце не будет живого Бога. Дайте Ему там место и он будет давать вам силы идти по жизни и побеждать зло. Друзей не приобретают ненавистью, репрессиями, злом, мщением, тюрьмами, ссылками – так делают только врагов. Я сожалею о том, что в нашей истории есть черные пятна «Священной инквизиции». Слишком тяжело перечислять злодеяния фальшивой церкви. Сегодня я считаю себя членом церкви, которая не пролила ни одной капли чужой крови. Наоборот, она проливала свою кровь за правду, за истину Божию. Члены этой церкви никого не били розгами, но сами были избиваемы. Они никогда не заточали в тюрьмы своих противников, а наоборот, сами шли в цепях и кандалах и сидели в тюрьмах и лагерях. Эта церковь и нам возвещала спасение Христово, Его любовь и Его борьбу со злом.

Когда Иисус Христос был распят на кресте, он молился: «Отче, прости им, ибо они не ведают, что творят». Если кто-то, прочитав это, скажет своему сердцу: «Сегодня с Божией помощью я не допущу в сердце зла» – это очень хорошо. Но это еще не все, Бог ожидает от нас большего, как и мы от своих детей. Писание говорит: «Перестаньте делать зло, научитесь делать добро». Ведь тот, кто не делает добра, будет обязательно делать зло. Мир сегодня страдает не потому, что люди делают злое, а потому, что они не научились делать добро, к которому призывает Евангелие.

Не устоять худу против добра – говорит русская пословица. Но так как добра на земле слишком мало, зло торжествует и причиняет людям неимоверные страдания. Я верю, что сила, которую я теперь имею, даст мне не только возможность побеждать зло, но и крепко стоять против него и давать другим часть этой силы и любви Божией.

*А. КНЫШ,*
*диспетчер Ивацевичской газокомпрессорной станции.*

МЕСТНАЯ ИНИЦИАТИВА

# Раскопал? Закопай!

В не такие уж далекие времена Барановичи порой представляли собой, особенно летом, город в руинах. Многочисленные траншеи, котлованы перерезали улицы, площади, переулки. Это владельцы индивидуальных домов, коттеджей, гаражей, да и государственные структуры, проводили работы по подводке коммуникаций — газа, света, воды, канализацию. Некоторые раскопки оставались незакрытыми годами. Отговорки были разные: нет материалов и денег на завершение стройки и т. д.

Барановичский горисполком в лице управления по архитектуре и градостроительству и стройконтроль решили просто задействовать старые свои же решения о соблюдении сроков раскопок и материальной ответственности виновных за нарушение их. Теперь каждый житель города или организация, предприятие должны представить в архитектуру веские доказательства необходимости раскопки, обосновать сроки проведения работ, предъявить на имеющиеся материалы документы.

Как сумел обвести вокруг пальца исполкомовцев житель улицы Фроленкова В. И. Кунцевич, неизвестно. Но разрешение на производство земляных работ получил. А дальше начал тянуть с проводкой газа. Исполком поторопил неразворотливого домовладельца сотней тысяч рублей штрафа. Кунцевич деньги отдал, но продолжал тянуть волынку. Повторное напоминание обошлось ему в шестьсот тысяч.

Не лучше ли и дешевле было пустить эти деньги на приобретение недостающих материалов?

Штраф — не только наказание виновного, но и метод поддержания порядка в городе.

*П. НАГНИБЕДА.*

● *ПОСТ ДАІ*

# ШТРАФЫ ЗНОЎ УЗРАСЛІ

У друку апублікаваны Закон Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных парушэннях», падпісаны Прэзідэнтам нашай краіны. Галоўная асаблівасць змяненняў — павелічэнне штрафаў за парушэнне правілаў дарожнага руху вадзіцелямі і пешаходамі.

Перавышэнне ўстаноўленай скорасці руху строга караецца. І чым большае перавышэнне, тым большая сума штрафаў.

Так, калі вадзіцель транспартнага сродка перавысіў скорасць руху больш чым на 30 кіламетраў у гадзіну, ён павінен заплаціць штраф у памеры трох мінімальных зарплат. Яшчэ большая сума штрафу (ад трох да дзесяці мінімальных зарплат) накладаецца на вадзіцеля, калі ён парушыў правілы руху ў другі раз. Работнікі дзяржаўтаінспекцыі гэты штраф могуць замяніць пазбаўленнем права кіравання транспартным сродкам на тэрмін ад шасці месяцаў да аднаго года.

Такое ж пакаранне чакае вадзіцеляў, калі яны не выканалі патрабаванні дарожных знакаў або разметкі праезнай часткі дарогі, парушылі правілы праезду скрыжаванняў, прыпынкаў грамадскага транспарту ці пешаходных пераходаў, перавозкі людзей або грузаў, абгону, манеўравання, буксіроўкі транспартных сродкаў, карыстанне асвятляльнымі прыборамі ў цёмны час сутак ці ва ўмовах недастатковай бачнасці.

Самыя строгія пакаранні, вядома, тычацца тых вадзіцеляў, якія селі за руль аўтамабіля, трактара або матацыкла ў стане алкагольнага ап'янення. На іх накладваецца штраф у памеры ад пяці да дваццаці мінімальных заработных плат ці яны пазбаўляюцца права кіравання ўсімі відамі транспартных сродкаў на тэрмін ад аднаго да трох гадоў.

Той жа штраф могуць атрымаць вадзіцелі, якія селі за руль і не маюць дакументаў на права ваджэння транспарта ды яшчэ п'янымі.

Калі шафёр, трактарыст або матацыкліст на працягу года двойчы затрымліваецца ў нецвярозым стане,то атрымлівае штраф у памеры ад дзесяці да трыццаці мінімальных зарплат (гэта значыць, ад 2,5 мільёна да 7,5 мільёна рублёў) ці пазбаўляецца права на кіраванне ўсімі відамі транспарту на тэрмін ад трох да пяці гадоў.

Хачу асобна падкрэсліць, што затрыманыя п'яныя вадзіцелі пазбаўляюцца права кіравання ўсімі відамі транспарту. Калі, напрыклад, у шафёра забралі дакументы на ваджэнне аўтамабіля, то ён, маючы матацыкл і адпаведныя дакументы, не можа сесці за яго руль.

Нямала дарожна-транспартных здарэнняў адбываецца і па віне пешаходаў, мапедыстаў, веласіпедыстаў, возчыкаў гужавога транспарту. Іх летась у раёне было 8. Тры чалавекі загінулі і сем паранена. Таму ў Законе прадугледжаны меры пакарання такіх парушальнікаў правілаў руху. Яны папярэджваюцца або плацяць штраф ад 0,1 да 0,5 мінімальнай зарплаты (ад 25 тысяч да 125 тысяч рублёў).

Гэтыя ж удзельнікі руху, якія сваімі паводзінамі стварылі на дарозе аварыйную абстаноўку, могуць быць аштрафаваны ў памеры ад 0,5 да трох мінімальных зарплат. Пры гэтым трэба заўважыць, калі названай катэгорыяй вадзіцеляў і пешаходамі створана на дарозе або вуліцы аварыйная абстаноўка і ёсць пацярпелыя (і людзі, і транспарт), то сума штрафаў узрастае — ад адной да пяці мінімальных зарплат.

Здараецца, што вадзіцелі транспарту не спыняюцца на патрабаванні работнікаў міліцыі. У такім выпадку на іх накладваецца штраф у памеры ад 0,5 да пяці мінімальных зарплат, а пры неаднаразовым невыкананні — ад пяці да пятнаццаці мінімальных зарплат ці пазбаўляюцца права кіравання ўсімі відамі транспартных сродкаў на тэрмін ад аднаго да трох гадоў.

Па-за населеным пунктам у цёмны час сутак побач з работнікамі міліцыі павінен быць спецыяльны аўтамабіль з праблісковым маячком. Калі такой машыны няма, вадзіцель не абавязаны спыняцца.

Летась у Івацэвіцкім раёне адбылося 52 дарожна-транспартныя здарэнні. Загінула 27 чалавек, паранена 49. Гэтыя лічбы сведчаць аб тым, што абстаноўка на нашых дарогах выклікае трывогу. І ўзмацненне пакаранняў парушальнікаў правілаў руху павінна садзейнічаць паляпшэнню абстаноўкі на нашых дарогах і вуліцах, змяншэнню колькасці здарэнняў.

*Л. ДЭЦУК,*
*дзяржаўтаінспектар Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.*

● *СЛУЖБА 01*

# У АГНІ БРОДУ НЯМА

За мінулы год на тэрыторыі нашага раёна адбылося 134 пажары (на 5 болей, чым летась). Матэрыяльныя страты склалі амаль 9 млрд. рублёў. У дым і попел агонь ператварыў 16 будынкаў, 178 тон кармоў. Але самае страшнае, што ў выніку пажараў загінулі 4 чалавекі, сярод іх 4-гадовая дзяўчынка. Гэтая трагедыя здарылася летась якраз на 8 сакавіка. Трое дарослых мужчын загінулі з-за асабістай неасцярожнасці пры курэнні: двое проста закурылі перад сном і заснулі з цыгарэтамі, а жыхар в. Любішчыцы Крысюк не толькі амаль не выпускаў цыгарэту з рук, дык у дадавак яшчэ і моцна сябраваў з гарэлкай. 6 чалавек у выніку пажараў атрымалі тэрмічныя траўмы. Курыльшчыкі летась сталі віноўнікамі 11 пажараў, а ўвогуле звыклая, калі не сказаць злачынная неасцярожнасць пры карыстанні агнём, аказалася прычынай узнікнення 55-ці здарэнняў. Такія пажары бушавалі ў вёсках Краі, Заполле, Амяльная, Квасевічы, Быцень і многіх іншых. Жыхарка в. Чамялы Макарэвіч, напрыклад, распаліла касцёр на сваім падворку паблізу гаспадарчага хлява, каб спаліць смецце. Варта было ёй крыху адысці ад вогнішча, як парывам ветру полымя ад кастра перакінулася на будынак. З-за ўласнай абыякавасці і неасцярожнасці жыхара в. Воля Кузьміцкага згарэў стажок сена. Здавалася б, некаторым грамадзянам ужо даўно трэба засвоіць, што кінутыя непатушанымі запалкі ці акуркі вельмі часта прыносяць вялікую шкоду ў выглядзе спаленых пабудоў, маёмасці. Таму заўсёды, калі справа тычыцца агню, трэба быць асабліва асцярожнымі, акуратнымі і абачлівымі.

Шмат клопатаў прынеслі летась і пажарным, і сваім родным малалетнія дзеці-падпальшчыкі. Па іх віне здарылася 33 пажары. Менавіта з-за свавольства з агнём і загінула 4-гадовая дзяўчынка ў в. Селец. Небяспечныя гульні з запалкамі сталі прычынай пажараў у вёсках Воля, Падстарынь, Магіліцы, дзе гарэлі гаспадарчыя хлявы. У вёсках Яглевічы, Даманава, Міронім дзеці падпальвалі стажкі сена. У вёсцы Жытлін ад дзіцячых рук разгарэлася полымя буйнога пажару, які знішчыў 30 тон сціртаванага сена.

Найчасцей да запалак цягнуцца дзеці ва ўзросце ад 3-х да 7-мі гадоў. Звычайна яны падпальваюць у дварах сваіх бацькоў, калі тыя на рабоце ці проста пакінулі іх дома адных на некаторы час. Бывае, што малых прывозяць да бабуль у вёскі з гарадоў і тыя ў сваю чаргу у знак «падзякі» за бабульчыну пяшчоту і ласку спальваюць які-небудзь будынак ці стажок. Нярэдка рабяты збіраюцца гуртом і прыдумляюць розныя, надзвычай небяспечныя гульні з прымяненнем запалак. Усе гэтыя вогненныя дзіцячыя забаўкі тояць у сабе вялікую пагрозу і небяспеку, бо ледзь не заўсёды выліваюцца ў вялікія пажары. Неабходна, каб гульні не былі ўтоены ад вачэй дарослых. Апошнія павінны пастаянна кантраляваць дзеянні дзяцей малодшага ўзросту, пастаянна тлумачыць ім, вучыць іх правільнаму, бяспечнаму карыстанню агнём і яго крыніцамі. Запалкі і запальніцы трэба заўсёды хаваць ад дзяцей у недаступныя для іх месцы. Такая перасцярога ўратуе і дзяцей, і іх бацькоў ад вогненнай навалы.

У 17-ці выпадках пажары ўзнікалі з прычыны няспраўнасці ці парушэння правілаў эксплуатацыі ацяпляльных печаў. Няправільна пабудаваная печ з'явілася прычынай узгарання ў памяшканні вагавой у в. Аброва (калгас імя Чапаева). Парушэнне рэжыму топкі печаў прывяло да пажараў у жылых дамах Русевіча (в. Краглевічы) і Грынчык (г. Івацэвічы). У большасці дамоў нашых землякоў печы сапраўды ўжо старыя, патрабуюць тэрміновага рамонту. Але здараецца, што і самі гаспадары не вельмі клапоцяцца аб сваёй асабістай бяспецы, груба ігнаруюць патрабаванні правілаў пажарнай бяспекі падчас топкі печаў. Як жа інакш можна назваць тыя абставіны, пры якіх дровы ў печы распальваліся пры дапамозе бензіну, распаленую печ пакідаюць без нагляду на доўгі час, не зачыняюць дзверкі печаў, калі там паліцца і г. д.

Значная большасць пажараў адбылася летась у вёсках — 104 выпадкі. Даволі часта гарэлі тарфянікі на значных плошчах сельгасугоддзяў. Усё ж у любым выпадку, у любым сваім праяўленні агонь, які выйшаў з-пад улады чалавека, прычыняе вялікія матэрыяльныя страты, пакідае глыбокія душэўныя раны. І амаль ва ўсіх пажарах павінен чалавек. А для таго, каб пазбегнуць бяды, трэба не так і многа: пастаянна і няўхільна прытрымлівацца мер засцярогі, выконваць адпаведныя патрабаванні правілаў пажарнай бяспекі.

*В. МОЛАШ,*
*ст. супрацоўнік ЦНППБ АВПС-6 Івацэвіцкага раёна.*

● *КРИМИНАЛ*

## Кончились набеги

Сбежать из спецкомендатуры -- дело плевое. Осужденные ходят на работу без охраны. Этим воспользовался некто Р. из Барановичей. В городе нашел приют у одинокой женщины, которой не было дела ни до биографии суженного, ни до его криминальных дел. Любит, кормит, одевает и на том спасибо. А Р., подобрав таких же отщепенцев, как и сам, начал "гулять" по магазинам и темным улицам. Вооружившись стартовым пистолетом, переделанным для стрельбы малокалиберными патронами и увесистой дубинкой, бандиты подкарауливали припозднившихся владельцев автомобилей и грабили их прямо в гаражах. Напали на магазин "Буслік". Подоспели и к магазину "Аист" да продавец успела закрыть двери. Грабители ограничились печаткой, отобранной у ее мужа. Милиция отследила шайку и арестовала главаря на квартире у сожительницы. Подельники тоже вскоре оказались за решеткой.

## Отжав дверь...

Ворошки изобрели этот новый вид взлома — отжимание дверей. Вроде все цело при первом взгляде, а на самом деле "язык" замка сломан. Дверь прикрыта. Злоумышленник свободно гуляет по квартире, отбирая вещи подороже. Таким способом из дома по улице Клубной кто-то унес видеоплейер "Голд стар", девять банок "Нескафе", тридцать тюбиков зубной пасты "Бленд-а-мед". С улицы Зеленой таким же способом умыкнули три сумки с товаром для реализации на 20 млн. рублей.

*П. НАГНИБЕДА.*
*г. Барановичи.*



"Газета для вас"

**КУПОН**

для бясплатнай прыватнай аб'явы

ТЭКСТ

________________________________

________________________________

________________________________

________________________________

Прозвішча, імя і адрас (звесткі не публікуюцца):




Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 19 студзеня ў 14.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.
Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.



НАШ АДРАС: рэдакцыя "Газеты для вас".
вул. Дзяржынскага, 30, 225250, г.Івацэвічы.
Тэлефон: 8 ( 245) 2-12-29.





*Тыраж 1250.*
*Заказ 119.*